Ладысеў, У. Ф. Праблема дзяржаўна-палітычнага самавызначэння Беларусі ў першыя месяцы пасля ўсталявання Савцкай улады / У. Ф. Ладысеў // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 26–33.

***У. Ф. ЛАДЫСЕЎ***

# ПРАБЛЕМА ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНАГА САМАВЫЗНАЧЭННЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ ПАСЛЯ ЎСТАЛЯВАННЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ

Пасля кастрычніцкіх падзей у Петраградзе ў беларускім нацыянальным руху ўсё большую ролю стаў адыгрываць знешнепалітычны фактар, што накладвала свой адбітак на працэс самавызначэння Беларусі. І гэта з'явілася не толькі вынікам асобага геапалітычнага становішча Беларусі, якая апынулася ў фокусе знешнепалітычных і тэрытарыяльных інтарэсаў Германіі, Савецкай Расіі, а пазней і Польшчы, а таксама незавершанасцю працэсу фарміравання беларускай нацыі, слабасцю эканамічных пазіцый беларускай нацыянальнай буржуазіі. Прычым, у адрозненне ад Літвы, дзе пад нямецкім пратэктаратам 11 снежня 1917 г. Літоўскай Тарыбай была абвешчана незалежнасць Літвы са сталіцай у Вільні, у дачыненні да беларускага пытання кіруючыя колы Германіі доўга не маглі вызначыцца.

Узмацніліся прэтэнзіі польскіх палітыкаў на беларускія землі. Савецкая ўлада аб'явіла аб намеры пакончыць з памешчыцкім землеўладаннем, які напрамую закранаў інтарэсы буйных мясцовых землеўладальнікаў. Многія з іх былі палякамі па нацыянальнасці, што абвастрыла праблему нацыянальных узаемаадносін у грамадстве. Для арганізацыі процідзеяння актывізуецца дзейнасць польскіх шляхецкіх рад: Рады Менскай зямлі, Рады Магілёўскай зямлі, Рады Віленскай зямлі (у Браслаўскім і Дзісненскіх паветах) і інш. [1, с. 153]. Польскія памешчыкі знайшлі ўзброеную абарону сваіх інтарэсаў у асобе створанага яшчэ ў ліпені 1917 г. з санкцыі расійскага камандавання 1-га польскага корпуса на чале з генералам Ю. Р. Доўбар-Мусніцкім. У сувязі з частымі пагромамі сялянамі польскіх маёнткаў легіянеры Доўбар-Мусніцкага з канца кастрычніка адкрыта сталі на абарону абшарнікаў, учынялі над беларускімі сялянамі жорсткія расправы, нават практыкавалі абстрэлы артылерыяй вёсак. Дзеянні польскага корпуса ўносілі дадатковую блытаніну ў клубок сацыяльна-класавых і нацыянальна-палітычных супярэчнасцей, ускладнялі працэс нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларусаў. Так, «Советская правда» ў нумары ад 30 студзеня змясціла факты, якія, на думку бальшавікоў, выкрывалі сувязі Цэнтральнай беларускай вайсковай рады (ЦБВР) з Доўбар-Мусніцкім, паказвалі яе контррэвалюцыйную дзейнасць.



У беларускім нацыянальным руху ў гэты перыяд выразна акрэсліліся два напрамкі: левы радыкальны і нацыянальна-дэмакратычны. Першы напрамак быў прадстаўлены Беларускім абласным камітэтам, Беларускім нацыянальным камісарыятам і Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыяй, якая ў верасні 1917 г. вылучылася з левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады. Лідэры гэтага напрамку: З. Х. Жылуновіч, А. Р. Чарвякоў, Я. С. Канчар, І. В. Лагун, З. М. Сабалеўскі, Ф. Ф. Турук, А. Х. Усціновіч, Ф. Г. Шантыр і інш., нягледзячы на рознасць падыходаў у практычным ажыццяўленні дзяржаўнасці Беларусі, аб'ектыўна выражалі настроі асноўнай масы рабочых, сялян і часткі дробнай буржуазіі, што імкнуліся да самавызначэння Беларусі ў складзе РСФСР на савецкай аснове. Асабліва актыўную ролю ў гэтым руху адыгрывалі бежанцы. Гэты маргінальны пласт беларускага насельніцтва ў сілу свайго асаблівага сацыяльна-палітычнага становішча надзвычай абвострана ставіўся да праблемы сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Трывога за ўласны лёс дапамагала зразумець патрэбу захавання цэласнасці краю, падштурхоўвала да гуртавання вакол пэўнага нацыянальна-палітычнага цэнтра.

Другі напрамак беларускага нацыянальнага руху быў прадстаўлены Вялікай беларускай радай, уваходзіўшымі ў яе склад партыямі і арганізацыямі. Яны ўсё выразней выступалі за аддзяленне Беларусі ад Расіі па ўзору еўрапейскіх буржуазна-дэмакратычных дзяржаў. У сваёй пераважнай большасці беларускія нацыянальныя партыі не падтрымалі Кастрычніцкай рэвалюцыі. У надрукаванай 27 кастрычніка «Грамаце да беларускага народу» ад імя Часовай Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, беларускага Выканаўчага камітэта Заходняга фронту, Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларускай партыі народных сацыялістаў насельніцтва Беларусі салдаты Заходняга фронту заклікаліся да згуртавання вакол Вялікай беларускай рады ў мэтах недапушчэння, каб «віхор бязладу згубіў нашу святую нацыянальную справу абароны вольнасцей і правоў беларускага народу» [2, с. 22].

У апошнія месяцы 1917 г. беларускі нацыянальны рух як на месцах, так і за межамі Беларусі прыкметна пашырыўся за кошт далучэння новых пластоў грамадства. З Вілейскага, Дрысенскага, Слуцкага паветаў паступала інфармацыя аб сельскіх сходах, на якіх сяляне галасавалі за аўтаномію Беларусі, навучанне дзяцей на роднай мове, за стварэнне нацыянальнага войска. Так, у горадзе Дрыса (сучасны Верхнядзвінск)

24 лістапада 1917 г. арганізаваўся Беларускі рэвалюцыйны камітэт. Яго старшынёй быў выбраны кіраўнік Беларускай партыі народных сацыялістаў Я. Сушынскі. Дрысенскі Беларускі рэўком стаў на платформу з'езда вайскоўцаў-беларусаў Заходняга фронту і выказаў гатоўнасць да падначалення Вялікай беларускай радзе [1, с. 156].

Аднак нацыянальная ідэя на тэрыторыі краю прабівала сабе дарогу з вялікімі цяжкасцямі. За межамі Беларусі бежанцы, салдаты, службоўцы стварaлі сярод беларускай дыяспары розныя таварыствы. Так, 29 кастрычніка 1917 г. у Арле было арганізавана таварыства «Беларуская хатка». Яно ставіла задачу, акрамя дапамогі бежанцам, абарону «аўтаноміі Беларусі ў яе этнічных межах», заявіла аб падтрымцы Вялікай беларускай рады [3]. Падобныя настроі выявілі беларусы Казані, Арэнбурга, Пскова, Таганрога, Адэсы, дзе беларуская дыяспара налічвала звыш 100 тыс. чалавек.

Утвораны ў Петраградзе Генеральны камісарыят Вялікай беларускай рады на чале з І. Варонкам устанавіў кантакты з прадстаўнікамі савецкай улады. Прынамсі, Варонка меў рабочыя сустрэчы з наркомам асветы А. Луначарскім, у час якіх было абяцана выдзяліць беларусам грашовыя субсідыі на выданне падручнікаў і адкрыццё пачатковых школ, а таксама адкрыць у бліжэйшы час Віленскі універсітэт [4, с. 90].

Напэўна, уражанне ад гэтых сустрэч у лідэра Беларускага нацыянальнага руху не склалася адназначна дадатным. І. Варонка інфармаваў дзеячаў ВБР у Мінску, што «інакш адносіцца да нашага руху той самы камісар Джугашвілі (Сталін), які выдаў дэкрэт аб нацыянальным самавызначэнні і думае правесці нас дэкрэтам, не прадпрымаючы ніякіх крокаў да неадкладнага задавальнення нашых нацыянальных імкненняў. М. Падвойскі з ім салідарны». І далей І. Варонка канстатуе, што «пагэтаму нам застаецца шлях намечаны намі яшчэ 17 кастрычніка» (мелася на ўвазе скліканне Усебеларускага з'езда) [5, с. 90].

Аднак акцэнтацыя лідэраў беларускіх нацыянальных партый і арганізацый на першачарговае вырашэнне нацыянальнага пытання без цеснай узаемасувязі з карэннымі пытаннямі аб зямлі і міры ва ўмовах разрухі і галечы насельніцтва аб'ектыўна не магла мець шырокай падтрымкі. Аб гэтым красамоўна сведчылі вынікі выбараў ва Устаноўчы сход. Беларускія палітычныя партыі атрымалі толькі 0,59 % галасоў выбаршчыкаў. Безумоўна, вынікі выбараў нельга разглядаць у прамой залежнасці ад дзейнасці палітычных партый, як гэта робяць многія айчынныя гісторыкі. Значны ўплыў на вынікі выбараў аказалі салдаты Заходняга фронту, якія падтрымлівалі інтэрнацыяналістаў-бальшавікоў з іх прыцягальнымі



лозунгамі міру і зямлі. Прычым актыўнасць сярод ваенных была значна большай, чым у цывільнага насельніцтва. Таму бальшавікі Беларусі атрымалі ў 2 разы больш галасоў выбаршчыкаў, чым у цэлым па Савецкай Расіі.

Аднак і бальшавікі Беларусі зрабілі тактычны пралік. Яны не ўлічвалі, што ў шэрагу раёнаў абсалютная большасць выбаршчыкаў галасавала за кандыдатаў беларускіх нацыянальных партый, якія адстойвалі ажыццяўленне права нацый на самавызначэнне.

Не ўлічвалася і тое, што нямногім менш чым бальшавікі — каля 43 % галасоў, атрымалі эсэры [6, с. 32], якія пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі актыўна выступілі за аўтаномію Беларусі ў межах Расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Яны забралі частку выбаршчыкаў у беларускіх нацыянальна-дэмакратычных арганізацый.

Невыпадкова В. Г. Кнорын вымушаны быў у 1925 г. канстатаваць, што беларускія дэмакратычныя арганізацыі як быццам і не прадстаўлялі сабой які-небудзь сур'ёзны палітычны фактар, аднак «найбольш буйныя ўскладненні ў першыя месяцы Савецкай улады адбыліся пры правядзенні нацыянальнай палітыкі». Характарызуючы пазіцыю бальшавікоў Беларусі ў перыяд лістапада — снежня 1917 г., ён гаварыў, што некаторыя непрыемнасці, якія «прычыніла нам беларускае пытанне, былі па той прычыне, што бальшавікі не звярнулі на яго дастатковую ўвагу» [7, с. 73].

Праблема заключалася не толькі ў тым, што бальшавікі Беларусі ў нацыянальным пытанні зрабілі пралік. Створаныя афіцыйныя органы савецкай улады на Беларусі — Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах) на чале з бальшавіком М. У. Рагазінскім і Саўнаркам (узначальваў бальшавік К. Ландар) мелі даволі цьмянае прадстаўленне аб формах будучай нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. Іх кіраўнікі зыходзілі з пасылкі, што перамога сусветнай пралетарскай рэвалюцыі пакладзе пачатак адміранню дзяржаўнасці, якое завершыцца пры хуткай перамозе сацыялізму. Таму развіццё сусветнай рэвалюцыі разглядалася як справа першачарговай важнасці, а станаўленне новых дзяржаў — як перашкода на гэтым шляху, бо раз'ядноўвае сілы міжнароднага пралетарыяту. З тых жа пазіцый зыходзіў у сваёй практычнай дзейнасці Паўночна-Заходні абласны камітэт РКП(б), які ўзначальваў А. Ф. Мяснікоў. Адметнай рысай пазіцыі кіраўніцтва Заходняй вобласці і фронту ў вырашэнні нацыянальнага пытання беларускага народа было, па трапнаму выразу аднаго з ідэолагаў беларускага адраджэння Я. Кан-

чара, «адмаўленне гістарычных, нацыянальна-тэрытарыяльных прадпасылак і ўсталяванне псіхалогіі абласніцтва» [8, с. 98].

Таму ініцыятыва ў вырашэнні нацыянальнага пытання адышла ад кіраўніцтва Заходняй вобласці і фронту да беларускіх нацыянальных палітычных партый і арганізацый на чале з іх каардынуючым органам — Вялікай беларускай радай. Абвешчаны ў «Дэкларацыі правоў народаў Расіі» лозунг права народаў на вольнае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў, апублікаванай 2 лістапада 1917 г., даваў юрыдычную падставу ў вырашэнні праблемы нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання Беларусі. На мітынгах і сходах салдат, працоўных і беларускай інтэлігенцыі ўсё часцей прымаліся рэзалюцыі аб нацыянальным самавызначэнні.

За дзяржаўную перабудову Расіі на федэратыўных пачатках і выдзяленне Беларусі ў якасці аўтаномнай адзінкі на чале з Краёвай радай выказаўся з’езд воінаў-беларусаў Паўночнага фронту (лістапад 1917 года) [9, с. 73].

Прыкладна такую ж канцэпцыю ўлады на Беларусі прапанаваў другі з’езд бежанцаў-беларусаў, які адбыўся па ініцыятыве БНГ у Маскве 19—21 лістапада 1917 г. У распрацаваным палажэнні ў мэтах абароны інтарэсаў беларускага народа павінен быць арганізаваны Часовы Беларускі Савет, які ажыццяўляў бы ўладныя функцыі да выбрання Беларускай Краёвай Думы [10, с. 83]. У склад Савета планавалася ўвесці прадстаўнікоў губернскіх земстваў, органаў гарадскога самакіравання, Саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў, беларускіх грамадскіх і ваенных арганізацый. Гэтая прапанова, як і многія іншыя, разыходзілася з рэальнай рэчаіснасцю ў сувязі з усталяваннем савецкай формы ўлады на тэрыторыі былога Паўночна-Заходняга краю.

Мясцовыя бальшавіцкія лідэры, карыстаючыся шырокімі арганізацыйнымі магчымасцямі ўплываць на насельніцтва краю, разгарнулі кампанію па дыскрэдытацыі беларускай нацыянальнай ідэі, сталі перашкаджаць далейшаму разгортванню беларускага нацыянальнага руху. Яскрава гэта выявілася на I Усебеларускім з’ездзе 5—17 снежня 1917 г., які прыняў рашэнне аб самавызначэнні Беларусі і выдзяленні са свайго складу органа Краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, што часова становіцца на чале кіравання краем. Насільны разгон з’езда кіраўніцтвам Саўнаркома Заходняй вобласці і фронту азначаў, што далейшы пошук кампраміснага вырашэння праблемы дзяржаўна-палітычнага ўладкавання Беларусі паміж нацыянальна-дэмакратычнымі сіламі і існуючымі органамі савецкай улады вы-



чарпаны. Спроба беларускіх дзеячаў на III Усебеларускім з’ездзе Саветаў у студзені 1918 г. узяць слова для тлумачэння свайго бачання праблемы не ўдалася. Больш таго, каб не дапусціць іх абрання ва УЦВК, былі прызнаны несапраўднымі 7 мандатаў, якія былі выдадзены Радай [11, с. 748].

Неабходна адзначыць, што і на пачатак 1918 г. грамадскасць Расіі вельмі мала ведала пра Беларусь і беларускі нацыянальны рух. Гэтую аб’ектыўную рэальнасць вымушаны быў канстатаваць член Выканкома ЦБВР Я. Мамонька, які ў тэлеграме, адрасаванай Беларускаму абласному камітэту ў Петраград, падкрэсліваў, што «да гэтага часу ні Крыленка, ні Мяснікоў, ні Ленін, ні Троцкі, ні рэдакцыі газет не атрымалі матэрыялаў, якія заставілі б іх штодзённа адчуваць, што ў Расіі, акрамя ўкраінцаў, татар, вялікаросаў і інш., маюцца яшчэ і беларусы… Вось чаму Крыленка і Мяснікоў заявілі мне, што яны беларускага руху не бачаць і не адчуваюць» [12, с. 54].

З разгонам Усебеларускага з’езда і яго ідэйна-палітычнай дыскрэдытацыяй бальшавікамі асаблівым нападкам падвергліся лідэры ВБР, а таксама ЦБВР, якая карысталася трывалым аўтарытэтам сярод франтавікоў-беларусаў. І. Варонка, як старшыня Савета з’езда, на працягу першай паловы студзеня двойчы арыштоўваўся бальшавікамі [13, с. 40]. Па загаду кіраўніцтва СНК Заходняй вобласці ў ноч на 27 студзеня члены Выканкома ЦБВР Езавітаў і Захарка разам з выпадкова знаходзіўшыміся ў памяшканні Рады Нямкевічам і Маісеенкам былі арыштаваны, а дакументы арганізацыі забраны. У канцы студзеня СНК Заходняй вобласці прыняў пастанову аб роспуску ЦБВР і арышце яе кіраўнікоў. Разам з тым бальшавіцкія лідэры Заходняй вобласці і фронту не маглі не бачыць пэўных пралікаў у канструяванні ўлады. Таму ўсярэдзіне лютага меркавалася скліканне Абласнога з’езда Саветаў беларускіх губерняў «для стварэння больш цеснай сувязі Абласнога выканаўчага камітэта з усімі саветамі вобласці [14, с. 3]. Не выключана, што яго арганізатары, акрамя азначаных пытанняў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, мелі на мэце стварыць адзіны ў краі орган улады ў процівагу абвешчанаму на Усебеларускім з’ездзе.

У выніку разгорнутай арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці легальнае існаванне цэнтраў беларускага руху ў Мінску фактычна прыпынілася. Разам з забаронай дзейнасці ЦБВР было прыпынена выданне яго друкаванага органа «Беларуская рада». У сувязі з распачатым нямецкім наступленнем 19 лютага арыштаваным членам ЦБВР, у іх ліку К. Езавітаву, удалося здзейсніць пабег. Выканаўчы камітэт ЦБВР пас-

танавіў «з прычыны яўна выяўленага імкнення Народнага Камісарыята Заходняй вобласці збегчы на ўсход і з прычыны набліжэння немцаў, анархіі ў горадзе ўзяць на сябе ахову парадку і бяспекі ў Мінску, а калі спатрэбіцца — то і ва ўсёй Беларусі, а таксама прапанаваць Выканаўчаму камітэту Рады І Усебеларускага з'езда выканаць волю з'езда і ўзяць уладу ў свае рукі».

Характэрна, што спроба беларускіх дзеячаў усталяваць уладу з апораю на ўласныя сілы сустрэла пэўную перашкоду з боку «Прадстаўніцтва ваенных палякаў». З прыбыццём нямецкіх часцей яна ліквідоўвалася канчаткова.

У адрозненне ад Украінскай цэнтральнай рады ў Выканкома Вялікай беларускай рады не было ўзброенай сілы для барацьбы за ўладу. Пачатае 21 студзеня фарміраванне беларускай дывізіі на базе 4-га армейскага корпуса Румынскага фронту не было завершана. Спробы кіраўнікоў ЦБВР абаперціся на вайсковыя часці г. Оршы практычных вынікаў не далі, магчыма па той прычыне, што аб гэтым стала вядома старшыні Саўнаркома Заходняй вобласці і фронту К. Ландару [15, с. 164, 168]. Таму былі прыняты адпаведныя контрмеры. У памяшканні Мінскага камітэта БСГ быў зроблены вобыск у сувязі са знаходзіўшыміся там руржжамі і гранатамі. Невыпадкова, у пісьме І. Варонкі ад 9 студзеня 1918 г. падкрэслівалася, што «ў Мінску мы вядзём барацьбу з бальшавікамі за ўладу» [16, с. 164, 168]. Аднак малейшыя спробы лідэраў ВБР перавесці палітычную барацьбу ў ваеннае процiваборства даволі лёгка ліквідаваліся больш вопытнымі іх апанентамі яшчэ на пачатковай стадыі. Але ігнараваць беларускае пытанне было практычна немагчыма. Прычым беларускія нацыянальныя дзеячы былі пастаўлены перад жорсткай альтэрнатывай выбару саюзнікаў у рэалізацыі нацыянальна-дзяржаўнай ідэі.

**ЛІТАРАТУРА**


1. *Рудовіч, С.* Час выбару і праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе / С. Рудовіч. Мінск, 2001.
2. НАРБ. Ф. 60. Воп. 3. Спр. 81.
3. *Васілеўскі, Ю.* Беларусь на абшарах Расіі / Ю. Васілеўскі // Голас Радзімы. 1994. 25 жн.
4. НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 2.
5. Тамсама.
6. *Игнатенко, И. М.* Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии / И. М. Игнатенко. Минск, 1992.





7. *Кнорин, В. Г.* 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте / В. Г. Кнорин. Минск, 1925.
8. *Канчер, Е. С.* Белорусский вопрос / Е. С. Канчер. СПб., 1919.
9. НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 3.
10. Тамсама. Спр. 2.
11. Тамсама. Ф. 60. Воп. 3. Спр. 3.
12. Тамсама. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 5.
13. Тамсама.
14. Утренняя Минская газета. 1918. 14 февр.
15. НАРБ. Ф. 60. Воп. 1. Спр. 10.
16. Тамсама.